# Даўней і цяпер





*Дырыжабль „Граф Цэпелін“.*

Калі вось такі малюнак (гл. зьнізу) 125 год таму назад убачылі людзі, дык сталі гаварыць: „Вось дзіва, вось каб тут пажыць, а галоўнае — лячу, куды хачу“.

Разглядвалі малюнак і радаваліся.

А другія казалі: „ Гэта хлусьня, выдумкі і ніколі ня можа стацца, каб такі карабель мог ляцець“.

А мінуў час, і ўнукі тых людзей убачылі сапраўдны такі карабель — нямецкі дырыжабль „Граф Цэпелін“. Нядаўна ён пабываў у Маскве. Дырыжабль „Граф Цэпелін“ мае ўдаўжкі 231 мэтр, ушыркі 30$^1/_2$ мэтраў. Вось які гэта раскошны домік! А падняць грузу гэты домік можа звыш шасьці тысяч пудоў!



ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 2-гі

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц . . . | 15 к. |
| На 3 м-цы . . . | 45 к. |
| На 6 м-цаў . . . | 90 к. |
| На 1 год . . . | 1 р. 80 к. |

№ 10 кастрычнік 1930

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25

## ЮНЫЯ МОПРАЎЦЫ





Мопр—Міжнародная Арганізацыя Дапамогі Рэволюцыянэрам. Гэтая організацыя ратуе ад галоднай сьмерці сем'і тых, хто гніе ў буржуазных турмах за справу рэволюцыі.

На здымку—конфэрэнцыя дзяцей мопраўцаў г. Гільзэнкірхену (Нямеччына).



# ЛЕНІН—ПРАВАДЫР РЭВОЛЮЦЫІ

Вярнуўся з-заграніцы тав. Ленін.

Гэта было ў час вайны, пасьля Лютаўскай рэволюцыі. З радасьцю сустрэлі свайго правадыра рабочыя.

І рабочыя, і працоўныя сяляне ведалі, што толькі тав. Ленін паможа ім зьнішчыць цара ды буржуяў.

На руках вынесьлі рабочыя тав. Леніна з вагона.

І ён тут-жа, па выхадзе з вагона, заявіў:

— Трэба рабочым узяць уладу ў свае рукі.

Мы павінны спыніць вайну!

Мы павінны зьнішчыць уласнасьць на зямлю і фабрыкі. Рабочыя і працоўныя сяляне павінны ўзяць уладу ў свае рукі!

І тады толькі стануць вольнымі ўсе працоўныя.

Рабочая і сялянская бедната ўсе, як адзін чалавек, пашлі за сваім вялікім настаўнікам—тав. Леніным.

Буржуазія ведала, што Ленін рыхтуецца да вялікага змаганьня.

Пачалася сыпацца хлусьня на тав. Леніна. Ён—нямецкі шпіён. Ён у запячатаным вагоне прыехаў. Многа чаго навыдумлівала буржуазія.

А Ўладзімер Ільліч толькі сьмяецца з гэтага ды сваю справу робіць.

Тады буржуазія разам са сваім правадыром Керанскім паспрабавала 3 ліпня 1917 года выклікаць на бітву яшчэ няўзброеных рабочых.

Але тав. Ленін растлумачыў рабочым, якую пастку ім рыхтуюць буржуі.

Ён ім казаў:

— Вас хочуць выклікаць на бітву, бо ведаюць, што вы да гэтага яшчэ не падрыхтаваны. Вас перамогуць, і зноў на дзесяткі гадоў будуць трымаць у няволі. Не выступайце ў бой, пакуль вы ня будзеце падрыхтаваны ўсе, як адзін чалавек. Дзень перамогі блізка! Рыхтуйцеся!

І рабочыя паслухаліся парады свайго правадыра. А тав. Леніна буржуазія зьненавідзела яшчэ болей.

Буржуазны ўрад парашыў арыштаваць тав. Леніна ды і забіць яго ў турме.

Але рабочыя не дапусьцілі да гэтага,— яны схавалі тав. Леніна і выратавалі яго.

Тав. Ленін мусіў хавацца.

Але ён ні на адну хвіліну не забываўся пра вялікую справу рабочых—рэволюцыю.

Ён кіраваў рабочым рухам і рыхтаваўся разам з рабочымі да апошняй бітвы.



Ленін на трыбуне. Малюнак Кустодзіева.

Пачаўся Кастрычнік.

Тав. Ленін пераехаў з Фінляндыі, дзе ён хаваўся, у г. Ленінград (тады называўся Петраградам), бліжэй да рабочых.

Робяцца астатнія падрыхтоўкі да выступленьня рабочых, каб захапіць уладу ў свае рукі.

Зьбіраецца II зьезд Саветаў.

Тав. Ленін заяўляе: „Пара захапіць уладу“. І тут-жа на зьезьдзе тав. Ленін сказаў:

— Ад імя рабочых і рэвалюцыйнага сялянства абвяшчаю:

— Уся улада належыць Саветам.

Усе фабрыкі і заводы, усе багацьці краіны становяцца дзяржаўнымі.

Няма больш паноў і нявольнікаў. Ад гэтага часу ўсе працоўныя—вольныя грамадзяне Савецкай рэспублікі

Усе павінны працаваць.— А хто не працуе, той ня есьць.

За работу!

А рабочыя і рэвалюцыйныя сяляне дружна адказалі:

— Мы наш, мы новы сьвет збудуем,

Хто быў нічым, той стане ўсім!

Рэвалюцыя і яе правадыр тав. Ленін перамаглі. З. Л.

# СТАРЫЯ ЛЯЛЬКІ,

*якія вымецены рэволюцыяй на сьметнік.*

**ПА ДЗЯМ'ЯНУ БЕДНАМУ.**



**Вось гэта лялька — ЦАР.**
**Начальнік былой банды.**
**Ён толькі знаў адну каманду:**
**„Рас-се-я, сьмір-р-р-на!..**
**Стой! Кругом!..“**
**Найбольшы дурань,**
**А быў царом!**

(Гл. на стар. 8)

# ЮНЫЯ ЛЕНІНЦЫ

*З успамінаў Ам. ЯРАСЛАЎСКАГА*

Гэта было ўлетку, у чэрвені 1917 года. Маскоўскія рабочыя і частка салдат не хацелі цярпець таго, што на месцы скінутых царскіх міністраў заселі буржуі і памешчыкі. Яны не хацелі вайны з іншымі дзяржавамі, бо гэта вайна была на карысьць толькі буржуям і памешчыкам.

І вось нездаволеныя рабочыя вышлі на вуліцы. Яны былі яшчэ слаба падрыхтаваны, каб перамагчы буржуазную ўладу. Гэтыя выступленьні рабочых былі толькі першымі слабымі галасамі, першымі спробамі. Але яны заклікалі ўсіх працоўных на астатні і рашучы бой, што адбыўся крыху пазьней, у кастрычніку.

А пакуль што буржуазія радавалася. Яна пашырала розную хлусьню пра бальшавікоў, называла іх нямецкімі шпіёнамі ды інш.

Гэтак было ў цэнтры гораду.

На акраінах, у рабочых кварталах, было зусім іначай. Там зьбіралі сілы, рыхтаваліся да Кастрычніцкай рэволюцыі. Там іначай думалі, іначай жылі. Там любілі бальшавікоў, разумелі, чаго яны хочуць.

Я вышаў аднаго разу ўвечары



*Да рэволюцыі малыя дзеці працавалі на заводах па 12 і больш гадзін. Буржуазія нажывалася з крывавай дзіцячай працы.*

**Мал. КУСТОДЗІЕВА.**

са сходу. Сонца ўжо зайшло. Ружавеўся яшчэ край неба. Ішоў я з рабочага сходу. На сходзе мы доўга гаварылі пра скончэньне вайны, пра помсту буржуазіі за ўсе зьдзекі над працоўнымі. Нашы думкі ў той час былі запоўнены толькі гэтым. Спыніўся блізка каля Крастоўскай вежы. Тут ня так шумна, як у цэнтры. Нават песьня дзіцяці чуваць у ціхі летні вечар.

І вось чую сьпявае дзіцячы голас:

„Сбросим могучей рукою
Гнет вековой навсегда
И водрузим над землею
Красное знамя труда...“

Зірнуў у той бок, аж гэта дзяўчынка гадоў дзесяці нясе ваду. Ад ружовасьці неба сукенка яе здавалася чырвонаю, нібы хто абвязаў яе чырвоным сьцягам. І словы песьні гэтай дзяўчынкі радавалі мяне, падбаўлялі сілы і надзеі ў нашу вялікую справу.

„Так,— падумаў я,— калі дзеці рабочых з намі, калі яны думаюць так, як мы, —перамога будзе наша. Калі не перамаглі сёньня, пераможам праз месяц, праз год, праз два“.

І пайшоў тады я ў цэнтр гораду шчасьлівы і радасны, нібы мы ўжо дабіліся перамогі.

У дні рэволюцыі дзеці рабочых нам дапамагалі. Іх нельга было ўтрымаць дома, калі бацькі, браты і сёстры вышлі на вуліцу змагацца.

У кастрычніку 1917 года мы ведалі многа дзяцей рабочых, якія дапамагалі нам змагацца за рэволюцыю.

У кастрычніку-ж да нас, у штаб Маскоўскай вайсковай акругі, прыляцелі першыя ластаўкі піонэрскага руху. Тады ў нас былі пашыраны атрады скаутаў. Гэта была буржуазная арганізацыя, але туды пападалі і дзеці рабочых.

І вось да нас прышлі дзеці з гэтых атрадаў і сказалі, што яны ня хочуць быць у скауцкіх атрадах, якія выступаюць супроць рэволюцыі.

Гэтыя дзеці прышлі да нас, каб змагацца разам з намі супроць буржуазіі і скаутаў.

Дзеці разам з намі перажылі цяжкія гады рэволюцыі. На іх вачох будуецца і ўзмацняецца наша краіна—Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Але дабудуеце яго вы, юныя ленінцы, народжаныя і ўзгадаваныя вялікімі днямі Кастрычніка.



*На барыкадах.*

# СЬМЕРЦЬ У ТУРМЕ



*Успаміны З. ЛІЛІНАЙ.*

Царскі ўрад забараняў дзецям вучыцца на сваёй роднай мове.

Да Кастрычніцкай рэволюцыі ўсе дзеці былой Расіі — беларусы, украінцы, татары, палякі, фіны і інш. — павінны былі вучыцца толькі на расійскай мове і ў расійскіх школах.

Дзеці іншых нацыянальнасьцяй ня ведалі расійскай мовы. Але ўсё-ж іх прымушалі вывучаць гэтую незразумелую для іх мову і забывацца на сваю родную.

Толькі Савецкая ўлада дазволіла кожнай нацыі вучыцца і гаварыць на сваёй мове.

У Мітаве, дзе я вучылася, усе гаварылі альбо па-латыску, альбо па-нямецку. Па-расійску маглі гаварыць толькі чыноўнікі і іх дзеці.

І вось царскі ўрад загадаў, каб усе школы займаліся толькі на расійскай мове.

Большасьць насельнікаў Мітавы — гэта латышы і немцы. Яны па-расійску не разумеюць ні слова.

Вучні парашылі змагацца супроць такога гвалту. Пачалі ствараццa патайныя гурткі вучняў.

У нашым гуртку былі два браты — латышы Робэрт і Вільгельм. Абодва яны вучыліся ў старэйшых клясах гімназіі.

Хлопцы былі сьвядомыя і актыўныя. Яны многа чыталі, дапамагалі ў бядзе сваім таварышом. У школе іх усе любілі.

Горача ўхапіліся яны гуртаваць вучняў для протэстаў супроць гвалту.

Бо для ўсіх было ясна: ня ведаючы расійскай мовы, нельга было вучыцца ў школе. Трэба было адмовіцца ад вучобы.

Пра нашу работу супроць улады пранюхала паліцыя. Паліцыя і жандары напалі на сьлед і арыштавалі братоў Вільгельма і Робэрта.

Вільгельм быў старэйшы. Яму было гадоў шаснаццаць, Робэрту было гадоў пятнаццаць. У турме іх пасадзілі ў асобныя адзіночныя каморы.

Вільгельм трымаў сябе ў турме малайцом.

А Робэрт ня вытрымаў адзіноцтва, засумаваў і скончыў жыцьцё самагубствам.

Яго знайшлі з перарэзаную на руцэ жылаю. Ён заплыў крывёю. Жылу сабе ён перарэзаў шклом.

А каб дастаць шкло, ён разьбіў акно ў каморы.

Цяжкая была наша страта. Мы ўсе вельмі любілі шчырага добрага Робэрта.



**МІТРАПАЛТ.**

**Боскі служака.**
**Вядзьмар пузаты,**
**Забіяка.**
**Маніў людзей,**
**Марыў пастом,**
**Дурманіў дымам**
**І хрыстом.**

(Глядзі на стар. 14).



Усе вучні гораду Мітавы сабраліся хаваць свайго дачасна загінуўшага таварыша.

У дзень пахаваньня ніхто з вучняў ня прышоў у школу.

Труну, засыпаную кветкамі, мы несьлі на руках.

Сьмерць Робэрта не прайшла дарма для нас, вучняў.

Па-першае, усім нам, хто прымаў удзел у пахаваньні, далі розныя пакараньні. Некаторых нават выключылі са школы.

Па-другое, мы зразумелі, што за волю трэба ня толькі змагацца, але быць гатовым і памерці за яе.




*Апавяданьне З. БЯДУЛІ.*

Праз ваўнянае неба познай восені працэджваецца сонца. Праменьні спачатку цягнуцца ўніз вузкімі румянымі істужкамі. Потым вызваленае сонца выходзіць з-за хмар, вымытае, яснае, кідаецца на абшар, аблівае яго мядовым цёплым колерам. Яно падае на рунь аграмадным агнёвым сокалам з распластанымі крыльлямі. На кволых траўках густой зялёнай руні мігацяцца сьлёзы нядаўнага дажджу.

Куды ні кінеш вокам—усюды рунь. Яна асеньняй радасьцю ахапляе вялікі абшар зямлі, цягнецца шоўкавым дыванам ушыркі і ўздоўж па грудзёх маткі глебы. Рунь даплыла да бярэзьніку, перакінулася праз тры нявысокія ўзгоркі. Вось зараз пераскочыць праз рэчку, як дзівосны зялёны вандроўнік, і ахопіць усё поле вакольных шэрых вёсак.

Каля самага бярэзьніку стаіць селянін.

Ён выглядае шэрай кропкай на фоне неахопнага поля жытняй руні.

Утаропіў вочы ў асеньняе сьвята зямлі...

Любуецца.

Ужо тры гады, як ён у колгасе „Кастрычнік“. Ужо тры



„Маё“...

гады, як яго вузкія палоскі ўтапіліся ў вялізным колгасным полі.

Вельмі часта ў дні адпачынку колгасьнікі ходзяць

грамадою аглядаць рунь. Але гэты селянін любіць часамі адзін пастаяць тут і думаць свае думы. Гэта ў яго старая прывычка. Калісьці ён так аглядаў увосень свае вузенькія палоскі. Цяпер ня можа пазнаць, дзе былі яго межы. Трактар як прагуляўся па гэтым полі, дык сарваў усе межы, згладзіў іх на векі-вечныя.

Селянін глядзіць на ўзгорак.

... Авось тут я многія гады гнуў карак над сахою... Балела сьпіна. Конік заўсёды быў худы, недакормлены...

... Мае палоскі...

Селянін націскае на слова „мае".

... Ад бацькі, ад дзеда, ад прадзеда гэтае „мае".

... Слова „мае" пералівалася ў балючыя мазалі, у кроў, цягнулася ручайком аж у сівыя незапамятныя часы.

... Слова „мае" зрабілася якбы яго галоўнай мэтай жыцьця, чулася ў кожным стукаце яго сэрца...

І селянін выклікае з захаваных успамінаў жывыя абразкі. Яны вельмі блізкія паводле ліку гадоў і аддаленыя на стагодзьдзі Кастрычнікам.

...Тады слова „мае" было нейкім вечным гнётам. Раз пашоў на свае палоскі руні, ажно суседзкія сьвіньні і авечкі топчуць яго крывавую працу.

Ён каменем забіў парсюка,



„Наша"...

а яму за гэта ў бойцы сусед два пальцы на правай руцэ выкруціў. У другі раз, калі ён задаўжыўся ў багатага Марціна, дык той абсеяў яго палоскі, а ён бяз хлеба застаўся на ўвесь год.

А колькі гадоў з панам Явароўскім судзіўся за гэтыя палоскі. На шчасьце надышла рэволюцыя, а то пан напэўна выйграў-бы суд.

Патроху за апошнія гады, калі ён увайшоў у колгас, слова „мае" перайшло ў новае слова—

„Наша".

Скончаны сваркі, суды, трывогі, лішнія клопаты.

Спачатку слова „наша" ішло паміма яго думак, адскоквала

# Дзеці вольнай краіны




1. Фізкультура. 2. У дзіцячым кутку. 3. Менскія піонэры гутараць з вядомым польскім рэволюцыянэрам т. ЛАНЦУЦКІМ. 4. Гарачыя сьнеданьні ў школе. 5. На дэмонстрацыі. 6. Дапамагаюць палоць агарод. 7. Самі майстры. 8. На інтэрнацыянальнай дэмонстрацыі. 9. Ахова птушак. 10. Інсцэніроўка з жыцьця індускай працоўнай беднаты. 11. У колгасе. 12. Гадоўля курэй.

ад сялянскага сэрца, як гарох ад сьцяны,—нешта нязвычнае, новае...

Ды „як-жа гэта—наша“.

Але ў грамадзе як лягчэй зажылося, калі яго сям‘я забылася пра вечны голад, калі скончыліся сваркі, калі спакайней зажылося,—слова „наша“ стала родным і замілаваным.

Селянін сам заўважыў, як „мае“ перарабілася на „наша“.

... Як гэта я жыў раней?—пытае ён у самога сябе.—Неяк нудна было...

Раней, калі цяперашнія колгасьнікі жылі ў вёсцы, дык ваўкамі глядзелі адзін на аднаго.



**ПАМЕШЧЫК.**

**Цярпела зьдзек ад яго вёска.**
**Лічыў сябе ён белай косткай,**
**А мужыкоў лічыў „скатом“,—**
**Стаяў над імі з бізуном.**

(Гл. на стар. 21).

Кожны чужой бядзе радаваўся. А цяпер—адна вялікая сям‘я. Для ўсіх—адно аграмаднае поле зялёнай руні. Цяпер тое, што баліць аднаму, трывожыць усіх, а што радуе грамаду—цешыць і аднаго...

Селянін пазірае на вялізны абшар руні.

... Наша—радуецца селянін.

... Фабрыка хлеба... Слова „фабрыка“ яму даўно вядома.

Калісьці Юрка, хлапец з суседняй вёскі, працаваў на фабрыцы ў Маскве. Аднаго разу лістоўкі прывёз на вёску, за што яго ўраднік арыштаваў. Юрку на доўгі час закапалі ў турму.

Цяпер фабрыкі карыстаюцца вялікай пашанай. І нездарма называюць колгас „Кастрычнік“ фабрыкай хлеба...

Часта сюды на новую фабрыку з гораду прыяжджаюць паглядзець. З вакольных вёсак людзі прыходзяць.

Рунь пераліваецца пад сонцам у розныя колеры.

Селянін усьміхаецца.

... А як загуляе тут улетку жняярка...

Годзе нашым бабам сьпіны гнуць з сярпамі ў руках!

Годзе на таку цапамі біць па снапох!—кажа селянін уголас на лад радаснай песьні.

Эх, родная, любая, сьвежая рунь Кастрычніка!

*ЗЬМІТРО ВІТАЛІН*

# НОВАЯ СЯЎБА



А потым палі
Зарунелі радамі,
Нібы расчасалі іх
Людзі граблямі.

***

Аднойчы ў атрадзе
Са смольнай лучыны
Мы самі зрабілі
Сявалку-машыну.
Мы вырасьцем —
Будзем машынаю сеяць!
Машына, як трэба,
Рассыпле насеньне!

Машыну давай нам!..
І з гораду трактам
Імчыцца да нас
І сявалка і трактар.

***

У полі
Дзядуня сівенькі
Ходзіць
З старэнькай сявенькай,
Рукой рассыпае насеньне
І кажа:
— І гэтак пасею...
А вось у колгасе суседнім
Палеткі па-новаму сеюць:
Там засяваюць
Сявалкі-машыны,—
Мы бачылі гэта сваімі вачыма.
Бачылі гэта
І ўсе дзіваваліся:
Зерні прыгожа
Радочкамі клаліся!



# ВЯЛІКІ ПАДАРУНАК КАСТРЫЧНІКУ

## Асінаўская электрастанцыя дае ток



7-га кастрычніка пушчана ў работу Асінаўская электрастанцыя імя тав. Сталіна. Станцыя яшчэ ня зусім закончана. Але ўжо многія заводы бліжэйшых гарадоў маюць электрычны ток.
На здымку—машына для выключэньня і ўключэньня току.



Агульны выгляд станцыі.

# АСІНСТАН АБРАСТАЕ ЗАВОДАМІ



Усьлед за пускам Асінстану пачнуць працаваць дзесяткі новых заводаў. На здымках—часальны цэх Аршанскага комбінату па апрацоўцы лёну. Комбінат будзе атрымліваць электрычную сілу ад Асінстану.





# ЖАБКА

*Нарыс*

*Н. УЛАШЧЫКА.*

— Вот і восень прышла,—каркае варона, седзячы на плоце.

Дождж, холад, слата... Брр... як нядобра... А пройдзе яшчэ некалькі тыдняў, і зіма да нас у госьці зьявіцца. Тады для мне кепскае жыцьцё пачнецца — і галадаць і мерзнуць давядзецца.

— Ква-ква, увосень вельмі дрэнна... ква-ква, сонейка зусім няма, а калі трохі пакажацца, то вельмі мала грэе. А холадна, холадна, ня гэтак, як летам,—адказвае з пажаўцелае травы жаба.

— Праўда, квакушка, праўда,—згадзілася варона.—Увосень зусім ня тое, што ўлетку.

— А куды ты, квакушка, на зіму дзенешся? У цёплыя старонкі, як ластавачкі, зьбіраешся, ці з пачаткам халадоў табе прыдзецца памерці?

— Не, чаму? — адгукнулася жабка. Зіма для мяне не такая ўжо страшная. Я закапаюся глыбока, глыбока ў пясок і буду там чакаць першых сонечных дзянькоў. Увесь гэты час я сплю, так што пра яду клапаціцца ня трэба.

— Вось як, — зьдзівілася варона, — у такім разе прыходзіцца толькі пазайздросьціць табе. Ты будзеш спаць цалюткую зіму, ніякага гора і клопату мець ня будзеш, а мне тады ой як горка і цяжка будзе. Часамі дзень, два, а то і тры лётаем, лётаем, каб хоць крыху пажывіцца, і нідзе не дастанем. А як затрашчаць маразы у-у-у як страшна робіцца тады! Я хоць і прызвычаена да халадоў, а ўсё-ж іншы раз за сваё жыцьцё баяцца прыходзіцца.

— Але, мабыць, я спакайней празімую,—згадзілася жаба.

— Вось яшчэ некалькі дзянькоў пагуляю. Пагляджу, калі не пацяплее, трэба будзе аб зімовай кватэры парупіцца.






*Апавяданьне*
П. ЗАМОЙСКАГА

*Малюнак*
А. РОЗАНАВА

Васілёк паехаў з бацькам на рынак купляць колы. Пачалі купляць, а з іх самую высокую цану запрасілі. Узлаваўся бацька ды калі крыкне:

— Ах, ты, буржуй!

Васілёк запомніў слова і, калі прыехалі дахаты, запытаўся:

— Тата, якія такія буржуі ёсьць?

— Буржуі тыя, — кажа бацька, — якія самі ня робяць, а жывуць з працы другіх. Хто ня робіць — той буржуй.

Васілёк цьвёрда запомніў: — Хто ня робіць — буржуй.

Ехаў ён раз каля папоўскага дому. Бачыць: поп стаіць сабе з палачкаю, а людзі яму дровы сякуць.

Адразу ўспомніў Васілёк бацькава слова ды калі крыкне:

— Поп — буржуй!

Усе падзёньнікі засьмяяліся.

— Ты што крыкнуў?

— Поп — буржуй! Не працуе!

Узлаваўся поп. Прыходзіць увечары і кажа бацьку:

— Сунімі свайго сынка. Буржуем мяне назваў пры людзях.

— За што?

— А так сабе. Я стаяў і глядзеў, як мае падзёньнікі дровы калолі, а ён убачыў і крычыць: „Поп — буржуй! Не працуе!“

— Ну, ён праўду сказаў. Не магу нічога на сына сказаць дрэннага, — адказаў бацька.

І поп, кусаючы губы ад злосьці, пашоў сабе дахаты.

# ПРА ДЗЯЎЧЫНКУ, ЯКАЯ ЎСЁ ЗЬБІРАЛА Ў КІШЭНЬ.

*Верш А. Барто* *Малюнкі Ліпгарта*



Цягне ўсё у кішэнь Марынка,
І тарчыць кішэнь, як скрынка.
Медзячок — у кішэнь,
Смалячок — у кішэнь,
І стужкі — у кішэнь,
І шпулькі — у кішэнь.
Усё што трэба —
у кішэнь,
Што ня трэба —
у кішэнь!
Усё—ў кішэнь!

## НЕ ДЗЯУЧЫНКА, А СКАРБОНАЧКА

Медзячок — мой,
Смалячок — мой,
І шпулька — мая,
І стужка — мая!
Усё вось гэта —
маё!
І вось гэта —
маё!
Усё маё!

## А ВАМ НІЧОГА НЯ ДАМ

І таўсьцее кішэнь,
І цяжэе кішэнь:
Там і бляшкі
ляжаць,





Там і ручкі
ад нажа,
Там і шалупайка
ад яйка.

## НЯ КІШЭНЬ, А ЦЭЛЫ СКЛАД

Паглядзеце — бок адвіс
І Марынку цягне ўніз.
Цягнуць
каменьчыкі
і грабеньчыкі,
Цягнуць
медзячкі,
смалячкі
І розныя цьвічкі...

## ОЙ! КІШЭНЬ МАРЫНКУ ПЕРАЦЯГНУЛА

Ну, дык вось-жа —
Марынка пакацілася
І галосіць.
Так мы і ведалі...




КАПІТАЛІСТ

Меў фабрык многа.
Грабежнік. Шкурадзёр.
Прайдоха.
Лупіў з рабочых скуру
з мясам
І багацеў ён з кожным часам.

(Гл. на стар. 22 і 23).

# Русак і бяляк.

**Па С. АКСАКАВУ**

Зайцы бываюць розных парод: ёсьць заяц Русак і ёсьць заяц Бяляк. Улетку яны абодвы шэрыя і вельмі падобныя адзін на другога, толькі Русак крыху большы, і поўсьць у яго на грудзёх і бакох рыжэйшая.

Пад восень і Русак і Бяляк пачынаюць сьвятлець; Русак усё-ж застаецца Русым, а Бяляк бялее ўсё больш і больш і да зімы робіцца зусім белым, як сьнег. Беляка часьцей сустрэнеш у лесе, а Русак любіць гуляць на полі.

Зайцы харчуюцца травою, лісьцём і ярыною. Асабліва яны любяць рунь. Зімою зайцы аб'ядаюць кару на дрэвах і кустох, а дзе няма лесу—шукаюць сухой травы. Для гэтага яны разграбаюць лапкамі досыць вялікія гурбы.

Зайцы прыносяць чалавеку шкоду: улетку яны крадуць капусту, моркаў і іншую гародніну, зімою—псуюць сады.

Хоць заяц харчуецца травою, але зубы ў яго вельмі вострыя. Ён моцна кусаецца, калі ўзяць яго ў рукі. Жывога зайца трэба браць за вушы і заднія ногі.

Заяц—самае нясьмелае стварэньне. Нядарма кажуць: „нясьмелы, як заяц". Ён баіцца і чалавека, і зьвера, і птушкі і толькі ўночы выходзіць шукаць сабе спажыву. Кожны шум і стук палохае яго, але азірнуцца назад ён ня можа, бо шыя ў яго не варочаецца. Ад спалоху ён падскаквае і адразу ўсім целам паварачваецца ў той бок, адкуль пачуўся шум.

Заяц мае асабліва жаласны крык, падобны на плач дзіцяці.




КУПЕЦ.

**Быў цьвёрдым стараверам,**
**Сыцеў, таўсьцеў ён ад абмераў.**
**Над бедняком чыніў разбой**
**І мармытаў: „Цярпі,**
**Хрыстос з табой!"**

*С. ПРЭАБРАЖЭНСКІ*

# ЗНАХОДКА

Прымаюць удзел: Міколка, Рыгорка, Юрка і Зоська.

ЗЬЯВА 1-я.

Сцэна нейкі час пустая. Чутны галасы дзяцей: „Вядзі-ж, Будзёны, нас сьмялей у бой“... З песьняю выходзяць Міколка, Рыгорка, Юрка і Зоська. Пад канец песьні Рыгорка пяе ня ў лад з усімі, сам гэта не заўважаючы.

**Юрка** *(перастае сьпяваць).* Таварышы, так не гадзіцца, зноў Рыгорка псаваць пачаў...

**Рыгорка.** Гэта ты псуеш, а на мяне ўскладаеш.

**Зоська.** Ну, вось табе і маеш: толькі-што наладзілі, і зноў перашкодзілі...

**Міколка.** Хай сабе псуе, гэта няважна...

*(Дзеці разыходзяцца ў розныя бакі і раптам усе заўважаюць скрутак на падлозе).*

**Рыгорка** Скрутак...

**Міколка.** Нешта заверчана.

**Юрка.** Стой, мой!

**Зоська.** Я знайшла.

*(Дзеці падбягаюць да скрутка, становяцца кругом).*

**Міколка.** Як вы думаеце, што тут ёсьць?

**Юрка.** Ну, вядома, што-небудзь смачнае ..

**Зоська.** Цукеркі... альбо яблыкі...

**Юрка.** Я першы крыкнуў—стой, мой!

**Міколка.** Мала што ты крыкнуў, усе знайшлі, на ўсіх і дзяліць будзем.

**Зоська.** Правільна.

**Рыгорка.** Таварышы, а што калі тут бомба ці порах?

*(Дзеці адыходзяцца).*

**Юрка.** Тады мне ня трэба, бярэце сабе.

**Рыгорка.** Вот разарвецца зараз. Тр-рах, і мы ўсе без галоў.

**Зоська.** Ты не палохай. Я баюся. Адкуль ты ведаеш, што там?

**Рыгорка.** Я нічога ня ведаю. Я так.



ГАРАДАВЫ.

Быў важнай цацкай—
Галоўны грунт
Для ўлады царскай.
Усюды ён
Тарчаў, бурчаў,
Трымаў, цягнуў
І ня пушчаў.

***

Працоўны люд
Ня вытрымаў такога зьдзеку,
Што панаваў над ім спрадвеку.
Народ ў Кастрычніку паўстаў
І ляляк гэтых пазьнішчаў.

**Міколка.** А калі ня ведаеш... няма чаго і баяцца... трэба паглядзець.

**Усе.** Паглядзець! *(Памалу падыходзяць, асьцярожна разгортваюць).*

**Юрка.** Не цягні, асьцярожна...

**Рыгорка.** Нешта мяккае.

**Зоська.** Картуна...

**Міколка.** Чырвоная.

*(Раскручваюць кавалак чырвонай картуны).*

**Юрка.** А вы казалі бомба.

**Рыгорка.** А ты казаў смачнае.

**Міколка.** Таварышы, навошта яна



нам?

**Юрка.** На што-небудзь спатрэбіцца.

**Рыгорка.** Давайце мне *(бярэ).* Я адзену яе на шыю, гэта будзе гальштук.. а я—піонэр.

**Міколка.** Пачакай! Пачакай! Не, давай лепш буду я піонэрам.

**Зоська.** І я хачу быць піонэркай.

*(Усе цягнуць кавалак у розныя бакі).*

**Рыгорка.** Пачакайце. Гэтак мы ўсю парвем. Давайце так: няхай кожны па чарзе адзене гальштук і пакажа, што ён-бы зрабіў, каб быў піонэрам. Хто прыдумае лепш за ўсіх, той і атрымае картуну—той і будзе сапраўдны піонэр. Добра?

**Юрка.** Добра. Давайце я першы.

*(Завязвае картуну гальштукам).*

**Міколка.** Ну, што ты цяпер зробіш?

**Юрка.** А вось што... Бяры ўсе па барабану...

**Рыгорка.** А дзе мы іх возьмем?

**Юрка.** Шукай дзе знойдзеш.

*(Дзеці разьбягаюцца, потым увахodзяць з картонам, старым вядром, скавародкай).*

**Міколка.** Ёсьць барабаны.

**Юрка.** А цяпер шагам марш у паход.

**Усе.** *(Стукаюць, ходзяць, сьпяваюць).*

Трам, там-там,  
Трам-там-там.  
Бі мацней у барабан.

**Рыгорка.** А далей што?

**Юрка.** Вось і ўсё. Хіба-ж я не сапраўдны піонэр?

**Зоська.** У барабан стукаць нявесела.

**Рыгорка.** Зьнімай гальштук. Давай другому.

*(Юрка аддае гальштук Міколку. Міколка, адзеўшы гальштук, важна адыходзіцца).*

**Юрка.** Ну, што-ж нам рабіць?

**Зоська.** А ты што зробіш?

**Міколка.** Я думаю...

**Рыгорка.** Ну, думай. Барабаны ўжо можна палажыць?

**Міколка.** Як сабе хочаце.

*(Дзеці выносяць барабаны).*

**Юрка.** Ну, што-ж ты будзеш рабіць?

**Міколка.** А табе што да таго? Я піонэр, а ты не. Мала што мы робім. *(Важна ходзіць).* Вось што—выбірайцеся адсюль прэч!

**Рыгорка.** Як прэч? Чаму?

**Міколка.** Бо не хачу я з вамі знацца. Вы не піонэры.

**Зоська.** Эгэ! Вот як ты разышоўся! Ты-ж сам яшчэ не піонэр.

**Міколка.** Як гэта не піонэр?

**Рыгорка.** Мы толькі пабачыць хацелі, што ты пакажаш.

**Юрка.** А ён і паказаў. Зьнімай гальштук!

**Міколка.** Я не хачу. Мне ў ім добра.

**Рыгорка,** Ня зьнімаеш—я сам зьніму. *(Зьнімае і адзяе на сябе).*

**Міколка.** Паглядзім, што ўжо хаця ты прыдумаў.

**Рыгорка.** Садзецеся. Увага, я пачынаю сход. Таварышы, на парадку дня ў нас даклад пра міжнароднае жыцьцё. Гм... так... так... *(Гаворыць прамову).*

**Зоська.** Не, Рыгорка. Гэта буза, давай мне гальштук.

**Рыгорка.** Ну, вот, яшчэ знайшлася. Што ты можаш зрабіць.

**Зоська.** Што-небудзь магу.

**Юрка.** Давай ёй.

**Міколка.** Гэтакі ўгавор.

*(Рыгорка аддае).*

**Зоська.** Вось што, таварышы, закрый вочы і не шавяліся.

**Рыгорка.** А навошта-ж гэта? *(Вымае хустачку).*

**Зоська.** А вось пабачыш. А хустачку схавай. У... якая брудная. Лепш рукамі закрый.

**Міколка.** Дзіва! Закрываць вочы... Навошта-ж гэта?

**Зоська.** Закрыйце, закрыйце, ды не падглядваць.

*(Дзеці закрываюць рукамі вочы. Зоська вымае ножніцы і разразае кавалак картуны на чатыры часткі).*





**Юрка.** Што ты там робіш?

**Зоська.** Зараз, зараз убачыш.

**Рыгорка.** Ай, дзяўчына ніколі нічога ня прыдумае.

**Зоська.** А ты пачакай, пабачыш, а потым і гавары...

*(Завязвае кожнаму гальштук).*

**Міколка.** Навошта ты чапаеш мяне за шыю?

**Юрка.** Я зараз вочы адкрыю.

**Рыгорка.** Ну, глядзі, калі ты штонебудзь натварыла...

**Зоська.** Раз! Два! Тры! Можна адкрываць.

*(Дзеці аднімаюць рукі).*

**Юрка.** У мяне піонэрскі гальштук.

**Рыгорка.** І ў мяне.

**Міколка.** І ў мяне!

**Зоська.** І ў мяне! Вось мая першая работа—усіх дзяцей у піонэрскі атрад. Цяпер нам трэба вырашыць, хто-ж з нас выявіў сябе сапраўдным піонэрам?

**Рыгорка.** Я!

**Міколка.** Вядома, я!

**Юрка.** Толькі я!

**Зоська.** Для таго, што самім нам вырашыць гэта вельмі цяжка, давайце запытаемся ў іх. (*Паказвае на гледачоў*).

**Галас з публікі:** Зоська! Зоська! Толькі Зоська!

(З расійскае).

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: ГАЙДУКЕВІЧ ЯКІМОВІЧ А.

# Даўней і цяпер



*Трактар, які хацеў зрабіць нямецкі селянін.*

* * *

Замарыўся на рабоце нямецкі селянін. Арэ і пыхкае, як паравоз. Выцер пот і падумаў.

— Пара ад мяне, як ад паравоза. А каб гэта і сапраўды запрэгчы паравоз у нашую сялянскую работу,—сядзеў-бы я тады з люлечкай на перадку ды пэхкаў-бы сабе. Араў-бы ў мяне паравоз. касіў, малаціў і веяў.

Так паўсотні год таму разважаў нямецкі селянін.

Узяў ён ды сказаў людзям пра свае думкі. Засьмяялі немца, задражнілі. Узялі ды яшчэ намалявалі яго, люлечку ў рот далі, пасадзілі на выдуманую ім машыну і, каб пасьмяяліся ўсе, у газэтах надрукавалі.

Немец гэты даўно адпачывае. Так бядак і памёр з крыўдаю на людзей.

* * *

А на колгаскіх палёх цяпер вурчыць моторам, рве зямлю пуцілаўскі трактар. Дваццаць плугоў бягуць за ім і ўсе добра аруць.

А араты сядзіць сабе на крэсьле, курыць люлечку, рулём пакручвае. І ніякага клопату — толькі-б газы хапіла да вечара.

Запражы ў трактар касарку— выкасіць. А можна паставіць трактар і малатарню ў ход пусьціць. Загудзіць машына, пачне хлеб абмалочваць. Ды ці мала якую выгаду дае селяніну трактар!



*Цяперашні трактар.*